© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 469 • Травень 2000 г.
Год выд. 50

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A.

## «ПРАСКАЯ ВЯСНА» БЕЛАРУСАЎ

Сьвяткаваньні ўгодкаў утварэньня БНР у Празе пачаліся з урачыстай акадэміі ў Люстраной залі Славянскай бібліятэкі — там, дзе у 20-ых гадох вымушаныя зьехаць у эміграцыю кіраўнікі БНР адзначалі 25 Сакавіка. Гэтым разам арганізатарамі сьвята былі актывісты суполкі беларусаў у Чэхіі «Скарына». На акадэміі выступілі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў (які цяпер вымушаны жыць у Нямеччыне), лідар БНФ Зянон Пазьняк, Старшыня БНФ Ганна Сурмач, Старшыня Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», а таксама госьць зь Беларусі — намесьнік старшыні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» сп. Станкевіч.

Пасьля гэтага адбылося набажэнства на Альшанскіх могілках, дзе пахаваныя Прэзыдэнты Рады БНР Крэчэўскі й Захарка, сьлявак Забэйда-Суміцкі.

Аднак сьвяткаваньнем 25 Сакавіка «беларуская праская вясна» толькі пачалася. Праграма знаходжаньня Івонкі Сурвіллы й Васіля Быкава ў Празе была насычаная сустрэчамі з палітыкамі, грамадзкімі дзеячамі, пісьменьнікамі й журналістамі, выступамі ў эфіры чэскага тэлебачаньня. Арганізатарамі гэтага візыту выступілі супрацоўнікі чэскага фонду «Чалавек у бядзе», якія ў апошнія гады правялі шмат акцыяў салідарнасьці зь беларускай дэмакратыяй.

Дарэчы, амбасадара Рэспублікі Беларусь прыняў намесьнік міністра замежных справаў Марцін Палоўш. Чэскае МЗС патлумачыла, што сустрэчы зь беларускімі дзеячамі абумоўленыя заклапочанасьцю Чэскай Рэспублікі сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Івонка Сурвілла й Васіль Быкаў наведалі таксама адміністрацыю прэзыдэнта Вацлава Гавэла, дзе адбыўся абмен думкамі ў справе сытуацыі ў Беларусі, а таксама пэрспэктываў інтэграцыі з Расеяй. Абмяркоўваліся магчымасьці дапамогі ў справе навучаньня беларускіх студэнтаў у Чэхіі.

«Я сёньня прымаю Вас як прадстаўнікоў апазыцыйных сілаў, але перакананы, што надыйдзе час, і вы будзеце афіцыйна прадстаўляць беларускую дзяржаву» — такімі словамі пачаў сустрэчу ў Камісіі міжнародных справаў чэскага парлямэнту яе старшыня Любамір Заралэк. Дэпутат паведаміў пра захады, якія робіць чэскі парлямэнт у падтрымку беларускай дэмакратыі. Ён сказаў, што зусім нядаўна Беларусь наведала група чэскіх дэпутатаў, якія знаёміліся з сытуацыяй. Аднак гэта ня быў клясычны парлямэнцкі візыт. «Мы зараз ня бачым раўназначнага партнэра на беларускім баку» — сказаў спадар Заралэк.

Чэхія не прызнае гэтак званы Нацыянальны Сход у якасьці легітымнага парлямэнту. Сёньня чэскіх палітыкаў ў беларускім пытаньні — акрамя сытуацыі з правамі чалавека — цікавяць два аспэкты: ступень дэмакратычнасьці будучых выбараў і, у сувязі з гэтым, пэрспэктывы апазыцыі і пэрспэктывы беларуска-расейскіх дачыненьняў ў сувязі з верагодным абраньнем на пасаду расейскага прэзыдэнта Ўладзімера Пуціна.



*Вясна ў Празе: Васіль Быкаў, Сяргей Навумчык, Івонка Сурвілла і сэнатар Чэскага Парляманту Ян Румал*

Датычна першай тэмы Івонка Сурвілла абвергла меркаваньне, якое яшчэ йснуе ў некаторых заходніх палітыкаў, пра слабасьць беларускай апазыцыі. «Апазыцыя якраз не слабая, галоўная яе праблема ў тым, што яна ня можа дайсьці да народу з прычыны адсутнасьці доступу да прэсы», — адзначыла Сурвілла.

Ацэньваючы беларуска-расейскія дачыненьні, Васіль Быкаў выказаў меркаваньне, што на працягу апошніх гадоў у Беларусі выпрацоўваюцца мадэлі таталітарызму, якія потым дзейнічаюць у Расеі.

На прэсавай канфэрэнцыі, якую наведалі больш як два дзясяткі журналістаў чэскіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі, Івонка Сурвілла адзначыла, што дзень 25 Сакавіка будзе адзначацца беларусамі па ўсім сьвеце, у сталіцах шмат якіх краінаў. Аднак сталіцай Беларусі зьяўляецца Менск, і таму забарона ўладаў правесьці ў гэты дзень шэсьце яна, Старшыня Рады БНР, успрымае як абразу нацыянальнае годнасьці.

У праграме візыту ў Прагу прэзыдэнта Рады БНР Івонкі Сурвіллы было й пасаджаньне Дрэва дэмакратыі. Акцыю арганізавалі маладыя чэскія кансэрватары. Пры гэтым прысутнічалі й каля 40 прадстаўнікоў моладзевых арганізацыяў Беларусі «Малады фронт» і «Грамадзянскі Форум», а таксама сэнатар Ян Румл, які заявіў, што зьбіраецца ў Менск на Чарнобыльскі шлях.

**Сяргей Навумчык**

## ЗАЯВА

Беларусь, якая аднавіла сваю незалежнасьць Актам 25 Сакавіка 1918 году, на мяжы стагодзьдзяў апынулася пад пагрозаю страты дзяржаўнасьці. Праімпэрскі дыктатарскі рэжым Лукашэнкі трымае накірунак на аб'яднаньне з Расеяй, зьнішчае нацыянальную культуру й беларускую мову. У выніку таталітарнага пераследу ўсё больш беларусаў вымушаныя пакідаць Бацькаўшчыну, уліваючыся ў трэцюю хвалю беларускай палітычнай эміграцыі. Знаходзячыся ў замежжы, мы лічым неабходным усімі магчымымі спосабамі падтрымліваць дэмакратычную апазыцыю ў Беларусі ў яе змаганьні з дыктатарскім лукашэнкаўскім рэжымам, спрыяць інфармаваньню парлямэнтаў і ўрадаў, грамадзкасьца заходніх краінаў пра становішча на Бацькаўшчыне і заклікаем да гэтага ўсіх беларусаў, дзе-б яны ні знаходзіліся. Мы аб'ядноўваем свае намаганьні вакол Рады БНР як легітымнага прадстаўніка сувэрэнных правоў беларускага народу, замацаваных Актам 25 Сакавіка 1918 году.

**Івонка Сурвілла, Старшыня Рады БНР**
**Васіль Быкаў, пісьменьнік**
**Зянон Пазьняк, Старшыня БНФ**
**Ганна Сурмач, Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына»**

*25 сакавіка 2000 году*
*Прага*



*Саджэньне Івонкай Сурвіллай Дрэва дэмакратыі для Беларусі. Прага, 28 сакавіка 2000*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю $30 на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

## ХРОНІКА БАПЦ

### НОВАВЫСЬВЕЧАНЫ АРХІМАНДРЫТ БАПЦ АЛЯКСАНДАР (САЛАГУБ)

Зь 7-га па 10-га красавіка 2000 г. у Стронгсьвіле, штат Агаё, знаходзіўся з архіпастырскім візытам Мітрапаліт Мікалай, Першаярарх БАПЦ. У сыботу 8-га красавіка, на другі дзень Дабравешчаньня, за Боскай Літургіяй у новазбудаванай царкве імя Маці Божай Жыровіцкай, Уладыка Мікалай рукапалажыў паддыякана Аляксандра Салагуба ў манаства з нарачэньнем імя ў гонар сьвяціцеля Аляксандра, Патрыярха Канстантынопальскага.

У нядзелю 9-га красавіка за Боскай Літургіяй Першаярарх БАПЦ рукапалажыў ярадыякана Аляксандра ў ярэі і ўзьвёў яго ў годнасьць архімандрыта. Гэта было першае рукапалажэньне ў нядаўна высьвечаным храме.

У сваёй пропаведзі а. Аляксандар нагадаў пра сутнасьць сьвята Дабравешчаньня ды падзяліўся асабістым успамінам.

«На пачатку 90-х гадоў, — сказаў он, — былы студэнтам Маскоўскай Духоўнай Акадэміі, я далучыўся да беларускага нацыянальнага руху. У мае рукі трапіў тады зборнічак вершаў Зьніча (Алега Бембеля). Адзін зь іх зрабіў на мяне асабліва вялікае ўражаньне.

*О, Крыўя — не!... Цябе ня зьмораць.*
*Ты зноў асьвецішся знутры —*
*Як па-крывіцку загавораць*
*З Табой Хрыстовы сьвятары.*

*Самотным прывідам сьвятару*
*Ля канфармісцкіх пустыроў,*
*Запальваю сьвятую мару —*
*Стварыць крывіцкіх сьвятароў.*

Стаць беларускім сьвятаром стала маёй марай. Шлях да яе быў даўгі й няпросты, і вось сёньня яна зьдзейсьнілася. Мы заўсёды павінны памятаць, што шлях да Уваскрасеньня ляжыць праз самаадрачэньне ў духу пакоры Божай волі, праз ахвяру й крыж.

Усемагутны, добры й чалавекалюбны Госпад па малітвах Маці Божай Жыровіцкай няхай дасьць нам усім сілы годна прайсьці шлях Вялікага Посту, сустрэць сьветлае Хрыстова Уваскрасеньне ды пабачыць Уваскрасеньне ўкрыжаванай сёньня Пакутніцы-Бацькаўшчыны — Беларусі. Амін.»



Архімандрыт Аляксандар нарадзіўся ў 1962 г. у Баранавічах, беларус. Богаведную навуку атрымаў, пасьлядоўна закончыўшы Маскоўскія духоўныя сэмінарыю і акадэмію, асьпірантуру пры Аддзеле вонкавых царкоўных зносін Маскоўскага Патрыярха (АВЦЗ МП) і Экуменічны інстытут Сусьветнай Рады Цэркваў у Жэневе (Швайцарыя). Ён — доктар багаслоўя. З 1994 г. працаваў у АВЦЗ МП, дзе займаўся дачыненьнямі Маскоўскага Патрыярха з Ватыканам. У 1996-97 гг. быў сакратаром прадстаўніцтва Маскоўскага Патрыярха (МП) пры Патрыярху Вялікае Антыяхіі і Ўсяго Ўсходу ў Дамаску (Сырыя). У 1997-99 гг. — сакратар Карсунскай (Францыя, Італія, Швайцарыя) епархіі МП у Парыжы. На пачатку 1990-х гадоў актыўна далучыўся да беларускага нацыянальнага руху. Быў сябрам Згуртаваньня беларускай моладзі «Пагоня» ў Маскве, дэлегатам 1-га Сусьветнага зьезду беларусаў у Менску ў 1993 годзе. Даўгалетні аўтар рэлігійных перадачаў Беларускай сэкцыі радыё «Свабода».

10-га красавіка Мітрапаліт Мікалай адбыў у Таронта (Канада). Яго праваджалі архімандрыт Аляксандар ды сябры парафіяльнай рады.

Выйшлі з друку й прадаюцца

**«Запісы БІНІМ»**, 24 (1999).

Замовы дасылаць на адрас Інстытуту

ці газэты «Беларус».

## ПРЭЗЫДЫЮМ РАДЫ БНР

15 красавіка ў Фундацыі П. Крэчэўскага адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР. Прысутнічалі Старшыня Рады Івонка Сурвілла, сябры Прэзыдыюму: С. Навумчык, Я. Запруднік, А. Орса-Рамана. А. Сёмуха, М. Клакоцкі, В. Зайка, Л. Юрэвіч. Як вядома, апошнія гады Рада БНР пашыралася за кошт новых сяброў зь ліку апошняй хвалі палітычнай эміграцыі. Актывізавалася яе дзейнасьць у эўрапейскіх краінах і ў Амэрыцы. Зараз, на думку многіх сяброў Рады, надыйшоў час перагледзець некаторыя палажэньні статуту, якія не мяняўся з 1978 году. Гэта ды іншыя пытаньні былі абмеркаваныя на паседжаньні прэзыдыюму. Вырашана таксама, што зьмены ў статуце Рады БНР будуць зацьверджаныя на чарговай сэсіі Рады, якая адбудзецца ў Клііўленьдзе (штат Агаё) на пачатку верасьня сёлета.

### ЗАВАСТРЭНЬНЕ АМЭРЫКАНСКАЙ ПАЛІТЫКІ Ў ДАЧЫНЕНЬНІ ДА ЛУКАШЭНКАЎСКАГА РЭЖЫМУ

Рэзалюцыя Кангрэсу ЗША ў справе Беларусі — гэта свайго роду падсумаваньне таго, што на працягу апошніх гадоў пісалася ў заходнім друку ды пра што гаварылася на цэлым шэрагу міжнародных канфэрэнцыяў, а гэта — што на Беларусі ўсталяваўся, падтрыманы Масквою, нэабальшавіцкі рэжым. Рэзалюцыя слушна называе Беларусь «сапраўднай аўтарытарнай паліцыйнай дзяржавай», заяўляе, што «законны тэрмін прэзыдэнцтва Лукашэнкі скончыўся ў ліпені 1999 году», бачыць Лукашэнкаву «тактыку зацягваньня й падману» ў гульні з апазыцыяй і міжнароднымі арганізацыямі, якія намагаюцца паспрыяць дэмакратызацыі краіны, ды слушна прызнае немагчымасьць свабодных і справядлівых выбараў» у атмасфэры рэпрэсіяў і страху».

Рэзалюцыя, такім чынам, будзе моцнай падтрымкай тым апазыцыйным сілам у Беларусі, што выступаюць за байкот парляманцкіх выбараў, якія ўрад плянуе правесьці паводле свайго сцэнарыя ўвосень сёлета.

Рэзалюцыя мае таксама міжнароднае вымярэньне, вельмі важнае для абароны незалежнасьці й дэмакратыі Беларусі. Амэрыканскія заканадаўцы адкрытым тэкстам нарэшце загаварылі пра падтрымку лукашэнкаўскае дыктатуры Масквою. А паколькі Масква сама шукае эканамічнае дапамогі на Захадзе, гэта дае фармальную аснову адміністрацыі Прэзыдэнта Клінтана й паасобным палітыкам дамагацца, каб расейскі ўрад перастаў заплюшчваць вочы на злачынствы лукашэнкаўскага паліцыйнага рэжыму. Апрача гэтага, Кангрэс США прыгадвае Маскве ейнае забавязаньне «поўнасьцю паважаць сувэрэнітэт Беларусі, асабліва ў сувязі зь нелегітымным характарам лукашэнкаўскага рэжыму».

У міжчасе беларуская дэмакратычная апазыцыя будзе мець мацнейшыя шансы на падтрымку з боку заходняга сьвету — маральную, палітычную ды фінансавую — у ейным змаганьні за свабоду й незалежнасьць Беларусі.

**Я.З.**

## ВАШЫНГТОН

6 красавіка адбыўся брыфінг дырэктара беларускага аддзелу «Радыё Свабода» А. Лукашука, які выклікаў значную зацікаўленасьць амэрыканскіх журналістаў (а іх было больш за 15 чалавек) да падзеяў, што адбываюцца на Беларусі. Пэўнай неспадзяванкаю гэта было й для самога прамоўцы, які прызнаўся, што прывёз невялікі падарунак — паштоўку з выявай Мірскага замку на фоне бел-чырвона-белага сьцягу й мікрафону з надпісам «Радыё Свабода», але недастаткова, бо не чакаў такой колькасьці прысутных.

У сваім слове сп. А. Лукашук распавёў аб сучасным становішчы ў Беларусі, асаблівую ўвагу зьвярнуў на падзеі 25 сакавіка, а таксама на жорсткія, брутальныя дзеяньні ўладаў у дачыненьні да грамадзянаў. Прамоўца адзначыў таксама значную ролю сродкаў масавай інфармацыі, у прыватнасьці, «Радыё Эўропа», у данясеньні праўдзівай інфармацыі, аднак пашкадаваў з прычыны невялікай колькасьці гадзінаў, якія мае Беларускі аддзел.

Журналісты задавалі пытаньні з самых розных галінаў жыцьця на Беларусі: правы чалавека, дыктатарскі рэжым, узаемаадносіны Лукашэнкі й Пуціна, стан беларускай мовы, самаідэнтыфікацыя беларусаў паводле апошняга, 1999 г. перапісу, роля моладзі ў барацьбе з рэжымам. Шматлікасьць пытаньняў і грунтоўнасьць адказаў на іх сп. Лукашука прывялі да таго, што брыфінг доўжыўся амаль на поўгадзіны болей запланаванага часу.

**Анатоль Вялікі**

### ЭКАНАМІЧНЫ ПРАГНОЗ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Міжнародны Валютны Фонд (МВФ) апублікаваў у красавіку эканамічны прагноз для некалькіх дзясяткаў краінаў, у тым ліку для Беларусі. Гэтак, інфляцыя ў Беларусі застаецца самай высокай з усіх краін. У 1988 годзе яна была 73,2%, у 1999 — 293,8%, у 2000 — 250,0%, у 2001 — 148,0%.

Дзеля параўнаньня падаём з тае самае табліцы аналягічныя лікі для Расеі:

27,7% (1998); 85,9% (1999), 20,5% (2000); 15,9% (20001).

Летува (у тых самых гадох): 5,1%; 0,8%; 2,0%; 2,0%.

Латвія: 4,7%; 3,2%; 3,0%; 3,0%.

Украіна: 10,6%; 22,7%; 22,5%; 10,2%.

Валавы Ўнутраны Прадукт (GDP) на душу жыхарства (г. зн. агульная вартасьць канчальнай прадукцыі галінаў матар'яльнай вытворчасьці й сфэры паслугаў у разьліку на аднаго жыхара краіны) для Беларусі выглядае гэтак (у далярах па сёньняшняй цане):

1.333 (1997); 1.405 (1998); 1.106 (1999); 1.379 (2000); 1.269 (20001).

Расея (тыя самыя гады): 2.953; 1.881; 1.240; 1.409; 1.509.

Летува: 2.550; 2.864; 2.818; 2.916; 3.105

Латвія: 2.229; 2.513; 2.622; 2.847; 3.179.

Украіна: 856; 839; 625; 519; 532.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## ВАШЫНГТОН

Жорсткая рэзалюцыя, што асуджае беларускі рэжым, прынятая 14 красавіка Камітэтам міжнародных адносінаў Палаты Прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША. У Камітэт Рэзалюцыю № 304 прадаставіў кангрэсмэн Сэм Гейдэнсан, Дэмакратычная партыя, штат Канэкцікут. Ён здолеў сабраць подпісы 130 сябраў Кангрэсу. Зараз, пасьля прыняцьця ў Камітэце, Рэзалюцыя па Беларусі будзе накіраваная на разгляд усяго Кангрэсу. Такім чынам, у бліжэйшы час Кангрэс ЗША ўпершыню ў гісторыі прыме рэзалюцыю па сытуацыі на Беларусі. Гэты крок стаў лягічным працягам тых заяваў розных палітычных структураў Амэрыкі, што рэгулярна агучваліся на працягу ўсяго кіраваньня на Беларусі Лукашэнкі. У шэрагу з маючым адбыцца пераглядам статусу Беларусі ў агульнай сыстэме прэфэрэнцыяў, прыняцьцё Кангрэсам рэзалюцыі азначае зьмену палітычнага курса ЗША ў адносінах зь беларускім рэжымам у больш жорсткі бок. У рэзалюцыі асуджаюцца грубыя парушэньні правоў чалавека на Беларусі. Дакумэнт утрымлівае заклік да рэжыму Лукашэнкі пачаць перамовы з апазыцыяй і правядзеньне свабодных выбараў і, што вельмі важна, заклік да кіраўніцтва Расейскай Фэдэрацыі спыніць фінансавую дапамогу беларускаму дыктатару.

Упершыню ў міжнароднай практыцы ў дакумэньце падымаецца пытаньне пра падтрымку беларускага рэжыму Расеяй. У рэзалюцыі таксама асуджаецца падпісаньне Лукашэнкам у канцы 1999 году гэтак званай саюзнай дамовы з Расеяй, што парушае сувэрэнітэт Беларусі. Дакумэнт сцьвярджжае нелегітымнасьць гэтае дамовы, бо летам 1999 году Лукашэнка як прэзыдэнт страціў сваё права падпісваць нейкія дакумэнты пасьля сканчэньня тэрміну сваіх паўнамоцтваў. Таксама адзначаецца, што дамова супярэчыць мэмарандуму аб гарантыях бясьпекі, падпісаным у тым ліку й прэзыдэнтам Расеі Ельцынам у 1994 годзе на саміце краінаўсяброў АБСЭ у Будапэшце.

Рэзалюцыя № 304 заклікае кіраўніцтва Злучаных Штатаў зрабіць перад кангрэсам справаздачу пра канкрэтныя крокі для таго, каб прымусіць урад Расеі спыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі і адмовіцца ад інтэграцыі зь Беларусьсю ў ваеннай галіне.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ • ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ • 2 сэсія 106-га скліканьня

Мы выказваем асуджэньне працяглым і вельмі сур'ёзным парушэньнем правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, адсутнасьцю прагрэсу на шляху да дэмакратыі й законнасьці ў Беларусі. Мы заклікаем рэжым прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі пачаць перамовы з прадстаўнікамі апазыцыі і аднавіць канстытуцыйныя правы беларускага народу, заклікаем урад Расейскай Фэдэрацыі паважаць сувэрэннасьць Беларусі.

Злучаныя Штаты Амэрыкі жыцьцёва зацікаўленыя ў разьвіцьці дэмакратыі ў замежжы й падтрымліваюць дэмакратыю і эканамічны росквіт Рэспублікі Беларусь.

Восеньню 1996 году беларускі прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка правёў спрэчны рэфэрэндум дзеля таго, каб прыняць новую Канстытуцыю Беларусі й скасаваці парлямэнт Вярхоўны Савет 13 скліканьня і замяніць паслухмянай заканадаўчай структурай.

Прэзыдэнт Лукашэнка правёў рэфэрэндум, на падставе якога незаконна падоўжыў свае паўнамоцтвы да 20001 году ў парушэньне Канстытуцыі 1994 году.

Законны тэрмін прэзыдэнцтва Лукашэнкі скончыўся ў ліпені 1994 году.

Беларусь ператварылася ў сапраўдную аўтарытарную паліцэйскую дзяржаву, дзе правы чалавека стала парушаюцца.

Эканоміка Беларусі ў застоі, а ўзровень жыцьця народу варты жалю.

У травені 1999 году беларуская апазыцыя з мэтай выступіць супраць антыканстытуцыйнага падаўжэньня прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі арганізавала альтэрнатыўныя прэзыдэнцкія выбары, чым выклікала жорсткі перасьлед з боку ўладаў.

Лідэр апазыцыі Сямён Шарэцкі, які баяўся за сваё жыцьцё, быў вымушаны ўцячы ў суседнюю прыбалтыйскую краіну — Літву.

Шэраг лідэраў апазыцыі, сярод якіх Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі і Юры Захаранка, зьніклі бяз сьледу.

Беларускі рэжым запалохвае й перасьледуе незалежныя сродкі масавай інфармацыі й праводзіць актыўную палітыку падаўленьня свабоды слова.

Былы прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір, які зьяўляўся кандыдатам на арганізаваных апазыцыях альтэрнатыўных прэзыдэнцкіх выбарах у травені 1999 году, знаходзіўся ў папярэднім зьнявоеньні на падставе фальсыфікаваных абвінавачаньняў з красавіка па лістапад 1999 году.

Рэжым Лукашэнкі справакаваў сутычкі паміж АМОНам і дэманстрантамі 17 кастрычніка 1999 году падчас «Маршу Свабоды», які закончыўся зьбіцьцём дэманстрантаў і дзясяткамі незаконных арыштаў.

Сотні мірных дэманстрантаў і больш за 30 журналістаў былі арыштаваныя 25 сакавіка 2000 году падчас мітынгу ў падтрымку дэмакратыі ў Менску. Гэта яшчэ раз прадэманстравала пагарду рэжыму Лукашэнкі да свабоды сходаў, аб'яднаньняў ды інфармацыі.

Рэжым Лукашэнкі адмовіўся ад канструктыўнага дыялёгу з апазыцыяй й выкарыстоўвае тактыку зацягваньня й падману насуперак спробам Арганізацыі Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе наладзіць працэс дыялёгу.

Сапраўдны дыялёг з апазыцыяй і правядзеньне законных, свабодных і справядлівых выбараў немагчымыя ў атмасфэры рэпрэсіяў і страху, якая пануе ў Беларусі.

З красавіка 1996 году прэзыдэнт Расейскай Фэдэрацыі Барыс Ельцын і прэзыдэнт Лукашэнка падпісалі пагадненьне стварыць саюз дзяржаваў: Расеі й Беларусі.

У прэсе былі паведамленьні, якія заслугоўваюць даверу, аб тым, што ўрад Расейскай Фэдэрацыі аказваў падтрымку рэжыму Лукашэнкі ад моманту падпісаньня дамовы аб стварэньні саюзнай дзяржавы ў выглядзе афіцыйных крэдытаў ураду Расейскай Фэдэрацыі, несабраных мытных падаткаў, дапамогі ў продажы беларускай зброі, супольнай вытворчасьці зброі і ў заніжаных цэнах на энэрганосьбіты.

Прэса таксама апублікавала сапраўдныя падлікі, што эканамічныя субсідыі ўраду Расейскай Фэдэрацыі для Беларусі дасягнулі 1,5-2 млрд. толькі ў 1996 і 97 гг. Гэта дазваляе рэжыму Лукашэнкі ўтрымліваць вялізныя паліцэйскія сілы й захоўваць дзяржаўны кантроль над эканомікай.

Саюзная дамова, падпісаная 8 сьнежня 1999 году Беларусьсю й Расейскай Фэдэрацыяй, падрывае сувэрэнітэт Беларусі й пэрспэктывы дэмакратыі.

Кансультацыйная Рада беларускіх апазыцыйных партыяў зьвярнулася да ўраду Расейскай Фэдэрацыі, Дзяржаўнай Думы й Савета Фэдэрацыі із заклікам прыпыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі.

Былыя старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч і Сямён Шарэцкі заявілі, што эканамічная падтрымка Расейскай Фэдэрацыі мае ключовае значэньне для выжываньня рэжыму Лукашэнкі.

Саюзны дагавор паміж Расейскай Фэдэрацыяй і Беларусьсю быў ратыфікаваны расейскім парлямэнтам і нелегітымным парлямэнтам Беларусі.

Саюзны дагавор паміж Расейскай Фэдэрацыяй і рэжымам Лукашэнкі парушае абавязальніцтвы ўраду Расейскай Фэдэрацыі паважаць сувэрэнітэт Беларусі, якія вынікаюць з мэмарандуму ў справе гарантыяў бясьпекі, які ў сьнежні 1994 году ў Будапэшце (Вугоршчына) падпісаў прэзыдэнт Расейскай Фэдэрацыі Барыс Ельцын на канфэрэнцыі кіраўнікоў дзяржаваў-сяброў Арганізацыі Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе.

Увод любой ядзерная зброі на тэрыторыю Беларусі, якая згодна з Дагаворам аб нераспаўсюджваньні ядзернай зброі абвешчаная бяз'ядзернай дзяржавай, будзе парушэньнем абавязальніцтваў Беларусі ў рамках гэтага дагавору.

У сувязі з усім вышэйпералічаным Палата Прадстаўнікоў (за згодаю Сэнату) пастанаўляе, што Кангрэс ЗША:

1. Асуджае працяглую палітыку парушэньня правоў чалавека рэжымам прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Рэспубліцы Беларусь.

2. Далей асуджае арганізаваныя рэжымам Лукашэнкі судовыя працэсы й прысуды Андрэю Клімаву, Васілю Лявонаву, Уладзімеру Кудзінаву на падставе палітычна матываваных абвінавачаньняў і патрабуе іх вызваленьня.

3. Выказвае сваю глыбокую заклапочанасьць зьнікненьнем Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Юрыя Захаранкі і заклікае рэжым Лукашэнкі правесьці поўнае й своечасовае расьсьследаваньне іх справаў.

4. Заклікае да неадкладнага дыялёгу паміж рэжымам Лукашэнкі і апазыцыяй з мэтай аднаўленьня ў Беларусі дэмакратычна абранай ўлады.

5. Настойвае, каб рэжым Лукашэнкі паважаў і ажыцьцяўляў правы ўсіх беларускіх грамадзянаў, уключна з сябрамі апазыцыі, якія сёньня беспадстаўна затрымліваюцца ў парушэньне іх канстытуцыйных правоў і яшчэ раз патрабуе ад рэжыму паважаць законнасьць і незалежнасьць судовай сыстэмы.

6. Яшчэ раз патрабуе ад Лукашэнкі правесьці законныя, свабодныя й справядлівыя парлямэнцкія выбары ў адпаведнасьці са стандартамі Арганізацыі Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе.

7. Падтрымлівае заклік Кансультацыйнай Рады беларускіх апазыцыйных партыяў да ўраду Расейскай Фэдэрацыі, Дзяржаўнай Думы і Рады Фэдэрацыі прыпыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі.

8. Заклікае міжнародную супольнасьць падтрымаць беларускую апазыцыю, працягваючы кантакты з законнаабраным беларускім парлямэнтам.

9. Падтрымлівае сувэрэнітэт Беларусі, яе незалежнасьць і тэратарыяльную цэласнасьць, а таксама рынкавыя, дэмакратычныя пераўтварэньні і інтэграцыю ў вялікую сям'ю народаў па абодва бакі Атлянтычнага акіяну.

10. Заклікае прэзыдэнта ЗША:

А) забясьпечыць дапамогу й супрацоўніцтва зь дзеячамі беларускай апазыцыі;

В) сачыць, каб тэрмінова былі выдзеленыя адпаведныя сродкі на падтрымку праграмаў умацаваньня незалежных сродкаў масавай інфармацыі, захаваньня правоў чалавека, узмацненьня незалежных прафсаюзаў і дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі;

С) падтрымліваць свабодную плынь інфармацыі ў Беларусь.

11. Кангрэс заклікае прэзыдэнта Злучаных Штатаў узьняць пытаньне фінансавай падтрымкі з боку Расейскай Фэдэрацыі рэжыму Лукашэнкі на самым высокім узроўні ўраду Расейскай Фэдэрацыі.

12. Заклікае прэзыдэнта Злучаных Штатаў запатрабаваць ад ураду Расейскай Фэдэрацыі ў адпаведнасьці зь ягонымі міжнароднымі абавязальніцтвамі поўнасьцю паважаць сувэрэнітэт Беларусі, асабліва ў сувязі з нелегітымным характарам Лукашэнкаўскага рэжыму.

13. Заклікае прэзыдэнта Злучаных Штатаў падрыхтаваць і скіраваць у Кангрэс даклад на наступную тэму:

А) сытуацыя правоў чалавека, працэсы дэмакратызацыі, выбары, незалежнасьць сродкаў масавай інфармацыі й кантроль рэжыму Лукашэнкі над беларускай эканомікай;

В) крокі, ажыцьцёўленыя Злучанымі Штатамі дзеля таго, каб пераканаць урад Расейскай Фэдэрацыі прыпыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі;

С) стан інтэграцыі паміж Расеяй і Беларусьсю ў ваеннай галіне.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# СЬВЯТКАВАНЬНЕ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ Ў ЧЫКАГА

Вялікая ўрачыстасьць, прысьвечаная Дню Волі — нацыянальнаму сьвяту ўсіх беларусаў сьвету, адбылася 26 сакавіка ў Беларускай праваслаўнай царкве Сьвятого Юр'я. Малебен за беларускі народ адправіў пратаіярэй айцец Дзмітрый Бажко. Адкрыў урачыстасьць сп. Міхась Каленік, старшыня Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага. Быў выканаы Амэрыканскі Гімн і прасьпяваны беларускі гімн «Магутны Божа». Хвілінаю цішыні ўшанавалі прысутныя памяць герояў, што загінулі за вольную і незалежную Беларусь. Сакратарка царкоўнай управы Алена Герашчанка зачытала шматлікія віншаваньні са сьвятам 25 сакавіка, якія прыйшлі ад розных асобаў, афіцыйных і грамадзкіх установаў і арганізацыяў.

Удзельнікі ўрачыстасьці цёпла віталі Пэт Міхальскі, асыстэнта губэрнатара штата Іліной у этнічных справах. Ад імя губэрнатара штата Джорджа Раяна яна сардэчна павіншавала ўсіх прысутных з нацыянальным беларускім сьвятам. Са шчырымі словамі вітаньня выступіла Карэн Эджэрэр, прадстаўнік дзяржаўнай арганізацыі Heartland International, якая апошнім часам актыўна запрашае прадстаўнікоў моладзі Рэспублікі Беларусь для заняткаў у розных адукацыйных праграмах.

Рэфэрат «Сучаснае значэньне прыняцьця Радай БНР Трэцяй Устаўной Граматы 25 сакаівка 1918 года» прачытаў Ванкарэм Нікіфаровіч. Ён прадставіў аўдыторыі госьця — Юрыя Хашчавацкага, вядомага беларускага кінарэжысёра-дакумэнталіста, аўтара забароненай сёньня ў Беларусі стужкі «Звычайны прэзыдэнт». Было зададзена шмат пытаньняў, на якія Юрый Хашчавацкі падрабязна адказаў. Прысутныя падтрымалі ідэю скліканьня сёлета ў Менску новага Усебеларускага Кангрэсу, каб на ўвесь сьвет абвясьціць непрыняцьце цяперашняга рэжыму ў Беларусі й выпрацаваць новыя прынцыпы беларускай дзяржаўнасьці, заснаваныя на ідэалах БНР.

На сьвяткаваньні Дня 25 сакавіка адбыўся канцэрт дзіцячага музычна-танцавальнага гуртка «Лянок», што зарганізаваны пры парафіі Сьв. Юр'я.



*Удзельнікі сьвяткаваньня каля Беларускай праваслаўнай царквы Сьвятога Юр'я ў Чыкага. Фота Л. Асеньняга*



*Падчас сьвяткаваньня ў Беларускім Рэлігійна-Культуральным Цэнтры ў Чыкага. Зьлева направа: Генрых Сянкевіч, Юры Хашчавацкі, Вера Рамук, д-р Вітаўт Рамук, Нікадэм Жызьнеўскі. Фота Н. Жызьнеўскага.*

Урачыста адзначалася нацыянальнае беларускае сьвята — Дзень Незалежнасьці, Дзень волі, 82-я ўгодкі БНР у чыкагскім Беларускім Рэлігійна-Культуральным Цэнтры (3107 W. Fullerton). Перад гэтым у храме Хрыста Збаўцы прагучаў малебен за беларускі народ і Беларусь. Сьвяткаваньне, арганізаванае Беларускім Каардынацыйным Камітэтам у Чыкага, пачалося праслухоўваньнем Амэрыканскага гімну й выкананьнем беларускага гімну «Магутны Божа». Уступнае слова, зьвяртаючыся да прысутных па-ангельску й па-беларуску, сказаў Ванкарэм Нікіфаровіч. Спадар Нікадэм Жызьнеўскі пазнаёміў аўдыторыю з ганаровым госьцем — Юрыем Хашчавацкім, вядомым беларускім кінарэжысёрам-дакумэнталістам. Ён адказаў на шматлікія пытаньні, падрабязна расказаў пра тое, як працаваў над стварэньнем фільма «Звычайны прэзідэнт», што сёньня забаронены на Беларусі. Гаворка ішла й пра апошнія грамадзкія акцыі беларускай апазыцыі, пра «Маршы свабоды» 17 кастрычніка мінулага году й 15 сакавіка сёлета, пра паліцэйскія акцыі цяперашніх уладаў Беларусі па забароне сьвяткаваньня Дня 25 сакавіка, пра сёньняшнія клопаты тых, хто змагаецца супраць рэжыму нелегітымнага Лукашэнкі, які называе сябе прэзыдэнтам рэспублікі. Юрый Хашчавацкі гаварыў пра тое, як узьнікла задума правесьці ўжо сёлета новы Усебеларускі Кангрэс, які павінен сабраць усе дэмакратычныя сілы з усіх рэгіёнаў Беларусі й беларусаў замежжа. Старшынёй такого Кангрэсу даў згоду быць сусьветна вядомы беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. Прысутныя падтрымалі ідэю скліканьня такого Кангрэсу, падкрэсьліўшы неабходнасьць пераемнасьці і далейшага разьвіцьця ідэалаў Дня 25 сакавіка, ідэалаў БНР у барацьбе за свабоду й дэмакратыю на Бацькаўшчыне.

На ўрачыстасьці было зачытана віншаваньне, якое праслаў з нагоды Дня Незалежнасьці Беларусі губэрнатар штата Іліной Джордж Раян, а таксама сьвяточны Зварот, адрасаваны ўсім беларусам у сьвеце, падпісаны Старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкай Сурвіллай.

## 25 САКАВІКА Ў ПЭРЦЕ, АЎСТРАЛІЯ

82-ія Угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі беларусы Пэрту адзначалі ў нядзелю 26 сакавіка. Дарэчы, гэта ўжо пяцідзясяты раз. А гадзіне першай у залі БНД сакратар Б.А. у З.А. сп. А. Мароз адыграньнем нацыянальнага гімну адкрыў урачыстасьць. Прывітаўшы прысутных і госьцю з Сыднэю сп-ню Вольгу Качан, падзякаваўшы ўсім за прыбыцьце, перадаў слова сп. Міхасю Раецкаму (старэйшаму), які й правёў афіцыйную частку ўрачыстасьці.

У першым пункце праграмы сьвяткаваньня ён прачытаў прынагодныя вітаньні: ад старшыні Рады БНР сп-ні Івонкі Сурвіллы, Фэдэральнай Рады Беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі ды старшыні Б.А. у Паўднёвай Аўстраліі спадара Віктара Кавалеўскага.

Даклад на тэму «82-ія Угодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР» зрабіў Р.М. У ім ён расказаў прысутным аб змаганьні беларускага народу за сваю годнасьць быць Чалавекам і гаспадаром у сваёй Хаце, а таксама і зьдзеках панявольнікаў над ім. У канцы дакладу Р.М. сказаў: «Ня зьнішчылі беларусаў панявольнікі, ня зьнішчыць яго й сучасны рэжым Лукашэнкі».

Затым ён прачытаў Паведамленьне прэзыдэнта ЗБС «Бацькаўшчына» Сп. Радзіма Гарэцкага. Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі адбыўся пачастунак, у часе якога была праведзена зборка ахвяраў на «Дар Сакавіка»; выказвалася незадаволенасьць уводжанымі ў Беларусі парадкамі рэжымым Лукашэнкі.

22-га сакавіка ўся беларуская радыёпраграма была прысьвечаная 82-ім Угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР.

За падрыхтаваньне пачастунку выказваем найшчырэйшую падзяку спадарствам Ніжнік, Ёлабам і спадарыні Марыі Мароз.

**Міхась Раецкі**

*Кэнінгтон 27.3.2000*

## 25 САКАВІКА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ, ПАЎДНЁВАЯ АЎСТРАЛІЯ

Беларусы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы сьвятых апосталаў Пятра й Паўлы ў нядзелю 26 сакавіка 2000 г. урачыста адзначылі Дзень Незалежнасьці Беларусі.

Служба ва ўпрыгожанай кветкамі царкве пачалася а 10 гадзіне раніцы. Настаяцель парафіі а. Пятро Касацкі служыў Божую службу, пасьля якой сказаў слова пра 25 Сакавіка. Потым адбыўся малебен за Беларусь і народ на Бацькаўшчыне і ў эміграцыі, сьпявалі «Магутны Божа».

Па заканчэньню сьвятар запрасіў усіх у прыцаркоўную залю, дзе сястрыцтва падрыхтавала ўрачыстае прыняцьцё. Сьвяткаваньне — зь песьнямі, чытаньнем вершаў, тастамі за Беларусь — ішло да самага вечара.

**У. Акавіты**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**Івонка Сурвілла**

# УСПАМІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў ПАРЫЖЫ (1948-1952)



*Івонка Шыманец Першы Дзень у Парыжы — 1948 г.*

Нашая сям'я прыехала у Францыю 12-га красавіка 1948-га году, у рамках эміграцыі ўцекачоў з краінаў бежанства, дзе яны былі апынуліся падчас ці пасьля Другой Сусьветнай Вайны, у краіны сталага пасяленьня. Пражыўшы тры гады у Даніі, куды нас закінуў лёс у травені 1945 году, мы былі змушаныя пакінуць гэтую цудоўную краіну, таму што яна ня мела магчымасьці абсарбаваць тых сотняў тысяч людзей, якія тым ці іншым спосабам туды былі дабраліся, уцякаючы ад вайны ды бальшавіцкай пагрозы.

Нашай сям'і мо' і было-б магчыма застацца у Даніі. Тата меў добрую працу па сваей прафэсіі, я хадзіла у данскую школу, ведала мову. Мелі шмат прыяцеляў і пасьля страшных гадоў вайны моцна былі палюбілі гэты мілы, гасьцінны край. Але між Беларусамі былі і ўцекачы з савецкай Беларусі, а іх савецкія ўлады намагаліся сілай вярнуць у свой рай. Тата пачаў за іх заступацца, іх бараніць. Яго за гэта цанілі й паважалі данскія ўлады. Але раптам прыйшло ў Капэнгагу дамаганьне з Масквы, каб выдаць ім Уладзімера Шыманца...

Данчыкі парадзілі нам як-небудзь перабірацца ў іншую краіну. Не хацелі ўваходзіць у спрэчкі з Савецкім Саюзам. Францыя тады якраз патрабавала работнікоў, і, каб не аддаляцца ад Беларусі, бацькі вырашылі эміграваць у Францыю, разам з бальшынёй беларускіх уцекачоў, якія былі апынуліся у Даніі.

Усе мы прыехалі ў Францыю з кантрактамі працы на фармах. Паколькі ў Францыі не хапала рабочых у галіне сельскай гаспадаркі, іміґранты мусілі згадзіцца адбыць кантракт на вёсцы перад тым, як шукаць іншай працы. Такі кантракт падпісаў быў і Тата, і мы былі гатовыя, прыехаўшы ў Францыю, пасяліцца недалёка Масон сюр Сон, у цудоўнай францускай правінцыі Бургось, куды нас выправілі. Але, як выглядае, выйшла тут было непаразуменьне. Фармэр прасіў сям'ю рабочых, а не гараджанаў, ды да таго з малымі дзецьмі. Пабачыўшы нас, перапалохаўся. Гэта дало Тату надзею, што мо як зможа адразу перабрацца у Парыж, дзе ўжо была вялікая беларуская калёнія. Запрапанаваў фармэру паехаць у адміністрацыю. Там паказаў свае дыплёмы й запэўніў, што зь яго боку ня будзе намаганьня застацца працаваць у фармэра, калі той не жадае яго прыняць на працу. Вось так мы і атрымалі дазвол перабрацца ў Парыж.

Я пражыла ў Ноі-сюр-Сэн, а пасьля ў Сартрувіль, каля Парыжу, адзінаццаць гадоў, пакуль ня выйшла замуж і не перабралася ў Мадрыд. Бацькі мае жылі там да канца свайго жыцьця — Тата памёр у 1977-м годзе. Мама у 1994-м, а брат Лявон з сям'ёй і надалей жыве ў бацькаўскай хаце.

У Парыжы нас паткаў Лявон Рыдлеўскі. Завёз нас на 65 рю дэ Гравіе, дзе тады жыў Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык з жонкай Нінай. Мы ведалі Міколу Абрамчыка з Даніі, куды ён некалькі разоў да нас прыяжджаў. Але заапекаваўся намі быў інжынер Рыдлеўскі. Памятаю ягоную ветлівасьць і ўсьмешку. Цяпер яшчэ маю ў альбоме, дзякуючы яму, некалькі здымкаў з того дня: ня ведаючы, як малых пазабаўляць, завёў нас ў «фотоматон» (аўтаматычны фатаграфічны кіоск) і зрабілі мы там сэрыю партрэтаў...

Як я даведалася крыху пазьней, Беларусы ў Парыжы тады жылі у чатырох месцах. Частка жыла на слаўнай высьпе Ля Жат, якую паўстагодзьдзя раней малявалі Імпрэсіяністы. Безумоўна, не выглядала яна пасьля вайны так прыгожа, як на пачатку стагодзьдзя, але ўсё-ж мейсца было цудоўнае. Другая частка жыла на поўначы Парыжу, недалёка Марше о Пюс. Называлі мы гэтае мейсца Кліянкур, паводле назову апошняй станцыі на лініі мэтро, якой туды ехалася. Жылі Беларусы таксама на вуліцы Ботзарыс у 19-й акрузэ францускай сталіцы і на вуліцы Гамбэта, у 11-ай акрузе.

Нас завёз сп. Рыдлеўскі на выспу Ля Жат, дзе мы пасяліліся у адным маленькім пакойчыку старога перадваеннага гатэлю. Толькі пад восень перабраліся ў два пакойчыкі, дзе й жылі, пакуль не купілі кавалка зямлі ў не пачалі будаваць сваю хату ў 1952-м годзе.

Умовы жыцьця для нашай сям'і былі амаль нязносныя. Адзін пакойчык, тры на тры мэтры разьмерам, быў нашай сталовай, заўсёды поўнай сяброў, працоўняй, дзе дзеці рабілі вечарам школьныя заданьні, а Тата даваў лекцыі матэматыкі ды фізікі хлапцом, якія стараліся прадаўжаць навуку, перарваную вайною. Гэта была таксама спальня бацькоў. Другі пакойчык таго-ж разьмеру быў спальняй дзяцей і кухняй. Там стаяла й маміна машына да шыцьця, на якой яна старалася падзарабіць пару грошаў, бо тата зарабляў вельмі-ж мала, правячы маторы ў маленькім атэльє недалёка ад нашага «гатэлю».

Памешканьне было ў вельмі дрэнным стане. Праз шчыліны кругом вокнаў і дзьвярэй зімой веяў халодны вецер, дзьверы адчыняліся зразу навонкі, печка нармальна не хацела гарэць, дымілася. Але тады ў Францыі, а асабліва ў Парыжы, было вельмі цяжка знайсьці памешканьне, і бацькі былі ўдзячныя й за такое... пакуль гаспадар не падвоіў цэнаў. Калі-ж гэта зрабіў, не было іншага выхаду, як толькі «будавацца»...

З братам адразу пачалі хадзіць у пачатковую школу, два блёкі ад нашай вуліцы, хаця я ўжо была здала экзамін у сярэднюю школу ў Даніі. Але-ж трэба было нейк навучыцца мове. Пасьля перайшлі — Лёнік у тэхнічную школу ў Сюрэн, а я ў гімназію для дзяўчат у Ноі. Была гэта школа прыватная, у Ноі не было тады сярэдняй публічнай школы для дзяўчат. Тата з Сп. Рыдлеўскім мусілі паабяцаць, каб атрымаць для мяне нейкую палёгку з аплатай, што я ня толькі здам экзамены, але й буду найлепшай вучніцай, прыкладам да іншых дзяўчатак. Шмат я напрацавалася падчас наступных шасьці гадоў, каб хаця быць на вышыні ды не страціць ствпэндыі.

Ня гледзячы на ўсё гэта, для нас з Лявонам успаміны з тых часоў — у колерах. Рака Сяна была ў гэтым месцы вельмі прыгожай. Высокі бераг хутка стаўся мейсцам, дзе мы найбольш праводзілі часу. Там і гулялі ў мячык і вучыліся, гледзячы на «пэнішы», вершы ды сьпіскі чужых слоў. У Сене тады нават дазволена яшчэ было купацца, хаця страшна й думаць, што было ў гэтай зялёнай вадзе... Лёнік няраз у яе ўвальваўся, лазячы па дрэвах. На шчасьце, нічога дрэннага ня сталася.

Наагул, мелі ўраженьне што Бог неяк намі апякуецца, так як і апекаваўся падчас страшэнных гадоў вайны. Дырэктарка школы мяне запрасіла на адпачынак у сваю «дачу» каля Рамбуе. Спадарства Абрамчыкі, калі пераносіліся на вёску, запрашалі нас некалькі разоў да сябе. Віця й Джаванна Сянкевічы, якія жылі ў Оксфардзе, пазнаёміўшыся з намі падчас вакацыяў у Парыжы, запрасілі мяне да сябе на цэлы месяц. Гэта адзін з найбольш цудоўных маіх успамінаў з тых часоў. У Ноі аднойчы брала ўдзел у выстаўцы малюнкаў ды здабыла бронзавы мэдаль. Памятаю, была нарысавала скаўцкі лагер. Школа зацікавілася мною. Паслалі мяне на вакацыі ў Піраынэі, у скаўцкі лягер для дзяўчат з Ноі. Наступныя два гады правяла такім самым чынам вакацыі ў Брэтані, а пасьля зноў з скаўтамі ў Овэрні.

У сярэдняй школе, мела заўсёды шмат сяброўкаў. Зь некаторымі яшчэ цяпер сябрую. Іншыя былі перад усім зацікаўленыя, што добра вучылася ды магла ім памагчы. Часта запрашалі дахаты на абед. Жылі яны ўсе ў цудоўных памешканьнях, да стала падавалі служанкі. Але ніколі мне не прыйшло ў галаву ппраўнаць іхнія ўмовы жыцьця з нашымі. Ніколі не ўважала сябе горшайв ці бяднейшай за іх. Наадварот, жыцьцё нашае было куды цікавейшае.

Зь Лявонам езьдзілі на курсы беларускай мовы да спадарыні Абрамчык і на курсы рэлігіі да Айца Льва. Я таксама вучылася граць на піяніне ў старэнькай настаўніцы ў Аржантой. Трэба было аўтабусам гадзіну ехаць туды й гадзіну назад, ды задаваленьня з гэтага было мала, бо-ж не было на чым практыкавацца. Але ў Даніі і Лёнік і я вучыліся граць два гады, бацькі рабілі вялікі высілкі каб нам даць гэтую магчымасьць, дык думалася, што нейк трэба прадаўжаць. Толькі як пайшла ў гімназію, перастала езьдзіць у Аржантой, бо зашмат гэта займала часу. Яшчэ цяпер з удзячнасьцю прыпамінаю ўсё, што бацькі зрабілі, каб дзецям даць магчымасьць «людзьмі стацца»...

Кожную нядзелю сям'ёй езьдзілі на Багаслужбу да айца Льва Гарошкі, у капліцы пад касьцёлам Сэнт Сюльпіс. Там звычайна зьбіралася шмат людзей, ня толькі уніятаў, якіх было ў Парыжы вельмі мала, але й праваслаўных і каталікоў. Веравызнаньне нас не разьдзяляла, зьяжджаліся мы ўсе таму, што Багаслужба была беларускай. Пасьля прыезду ў Францыю сям'і Дышлюкоў вельмі прыгожа сьпявалі падчас Багаслужбаў Ніна і Вера. Калі першы раз прыйшлі ў капліцу й пачалі сьпяваць, не папярэдзіўшы айца Льва, дык ён чуць не самлеў, а ўсе прысутныя былі захопленыя. Пасьля Службы нармальна ўсе разам ішлі ў бок мэтро Сэвр-Бабілён, пасьля чаго нашая сям'я звычайна ішла пяшком у якісьці музэй — найчасьцей Лювр — дзе праводзілі рэшту дня. Адтуль зноў няраз ішлі пяшком дахаты па Шанз Элізэ, захапляючыся па дарозе паркам Туільры, Плас дэ ля Конкорд, Гран Пале, Арк дэ Трыёмф ды іншымі слаўнымі мясьцінамі Парыжу. Часам арганізавалі экскурсыі па Парыжы разам зь іншымі суродзічамі.

Але сапраўдным месцам спатканьня для ўсіх нас у Парыжы быў сындыкальны будынак Францускай Канфэдэрацыі Хрысьціянскіх Работнікаў, на сквэры Монтолён. Там адбываліся і выстаўкі, і зборкі, і ўрачыстыя сьвяткаваньні нашай грамады.

Першы раз туды мы прыехалі на сьвяткаваньне, здаецца, праваслаўнага Вялікадня ў 1948-м годзе. Было

*(Працяг на бач. 6)*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## УСПАМІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў ПАРЫЖЫ...

*(Працяг з бач. 5)*

там шмат людзей, і памятаю, што спаткалі нас з кветкамі. Перадаў іх Арсень Монід. Быў там і Міхась Наўмовіч, які тады студыяваў у Вышэйшай Мастацакай Школе, і пэўне-ж усе іншыя беларускія Парыжане. Хаця мы іх тады яшчэ ня ведалі, вельмі было прыемна ў сваёй вялікай беларускай сям'і.

На наступным спатканьні Тата расказаў аб нашым жыцьці ў Даніі. Памятаю, як прыгожа гаварыў. Між іншым, таксама заўсёды захаплялася выступленьнямі Міколы Абрамчыка, які быў выдатным прамоўцам. Мелі нагоду яго чуць пасьля кожнага ягонага падарожжа па сьвеце, а менавіта ў Амэрыку. Яшчэ цяпер памятаю, як ён расказваў, як хутка амэрыканцы будуюць дамы, ды дзівіўся вагой амэрыканскіх газэтаў. Расказваў, безумоўна, перад усім аб беларускім жыцьці, аб усім асягнутым нашай паваеннай эміграцыяй. Было цікава й напаўняла сэрцы надзеяй.

Таксама ў «сындыкаце» сьвяткавалі мы кожны год 25-га Сакавіка і адзначалі Слуцкае Паўстаньне. Пасьля дакладу на тэму дня быў нармальна канцэрт, выступалі зь вершамі, сьпяваў Віктар Жаўняровіч. Падросшы, я часам вяла гэтыя сьвяткаваньні нармальна, без праблемаў. Толькі вось раз трэба было прадставіць важных гасьцей зь Нямеччыны, Барбару Вершбаловіч і Галіну Ганчарэнку, якія выступалі зь песьнямі. Раптоўна здала сабе справу, што не памятаю прозьвішча Барбары. Яшчэ цяпер чырванеюся, прыпамінаючы гэты мамэнт.

У Ноі мы вышылі шмат народных касьцюмаў. Вышывалі іх для студэнтаў у Лювэне, для сябе, для паказу на міжнародных выставах. Ініцыятыва была Ніны Абрамчык, я рысавала ўзоры, вышывалі Мама, Ніна, Валя Кавалеўская і я. Шмат гадоў пасьля пабачыла ў Канадзе вышываную кашулю з узорам, які я была прыдумала ў 12 гадоў у Парыжы...

З айцом Львом хадзілі на кангрэсы, дзе трэба было дзяржаць беларускі сьцяг, а часам і прамовіць пару слоў па-францускy. Раз Міхасю Наўмовічу трэба было пайсьці на зборку Міжнароднай Асацыяцыі Вэтэранаў, якая арганізавала супольны баль. Міхась быў заняты, папрасіў, каб пайшла я. Было даволі камічна для ўсіх прысутных бачыць на паседжаньні сівых вэтэранаў шаснаццацігадовае дзяўчо... Але адбыла павіннасьць, і Беларусы ўзялі ўдзел у імпрэзе. Ведаючы ўжо добра францускую мову, мне прыходзілася рабіць даволі шмат рэчаў, якіх нармальна ў маім тады веку ня робіцца. Прыкладам, выпаўняла просьбы на выезд у Амэрыку ці Канаду й падатковыя дэклярацыі, вадзіла навапрыехаўшых у гарадзкі камісарыят рэгістравацца, а каму было трэба — да лекара ці ў шпіталь. Не магу сказаць, што рабіла гэта зь вялікай прыемнасьцяй, але тады не было прынята адмаўляць каму-колечы помачы.

Адзін з найбольш прыемных успамінаў з тых часоў быў Сусьветны Зьезд Беларускай Эміграцыі, які адбыўся у кастрычніку 1948-га году ў Парыжы. Прыемны ўспамін, бо на гэтым зьезьдзе я упершыню пабачыла майго будучага мужа, Янку Сурвіллу. Зьехалася тады беларуская дзейная эміграцыя зь Нямеччыны, з Англіі, з Бэльгіі, з Францыі. Гэта было яшчэ перад масавым выездам Беларусаў за Акіян. Падзея лічылася ўсімі вялікім дасягненьнем. Маёй роляй было прышпіляць людзям беларускія сьцяжкі, а яны мне за гэта клалі на талерку па некалькі франкаў на аплату выдаткаў, зьвязаных зь зьездам. Кожны нахіляўся, я яму прышпіляла сьцяжок, пасьля чаго, усьміхнуўшыся да дзіцяці, ішоў знаёміцца з іншымі дэлегатамі. А тут прыходзіць малады чалавек і кладзе мне за сьцяжок штосьць у родзе месячнай зарплаты майго Таты. Калі я гэта ўбачыла, пабегла за ім, каб сказаць, што ён, відаць, памыліўся — бо-ж ніхто іншы столькі на талерку не палажыў. А ён кажа, не — не памыліўся. Безумоўна, такой шчодрасьці я не магла забыцца, і калі Янка праз год пераехаў з Мэцу, дзе ён тады працаваў, у Парыж, я на яго ўжо глядзела з асаблівым захапленьнем.

Зьезд беларускай эміграцыі — адзін з прыкладаў вельмі актыўнага беларускага жыцьця ў тыя гады ў Парыжы. Айцец Леў Гарошка выдаваў зьмястоўны рэлігійны часапіс «Божым Шляхам», Міхась Наўмовіч з Януком Філістовічам і, крыху пазьней, з Аўгенам Кавалеўскім выдаваў ратататарам часапіс «Моладзь». Янка Сурвілла выдаваў, таксама ратататарам, Бюлетэнь Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускай Эміграцыі (С.А.Б.Э.). Выдалі беларускі каляндар. Тата нарысаваў сэрыю маркаў БНР.

Аднак адчувалася патрэба сапраўднай газэты. Беручы пад увагу нашыя ўмовы жыцьця, цяжка сабе і ўявіць, дзе браліся на ўсё гэта сілы. Раптоўна ўзяліся мы езьдзіць па друкарнях (пераважна езьдзіў Тата. Мяне браў з сабою бо-ж трэба было перакладчыка...), па фабрыках, дзе вылівалі з волава літары ды рабілі прэсы. Пачалі лічыць, колькі кожнай літары трэба, каб надрукаваць беларускі тэкст, зьбіраць грошы, каб усё гэта закупіць. Нарэшце пачала працаваць беларуская друкарня на 65 рю де Гравіе. Платным друкаром стаўся Мікалай Лысуха. Гэта ён набіраў па літарцы газэту — назвалі яе «ЗА ВОЛЮ», — якая тады пачала выходзіць. Тата пісаў і рэдагаваў, і рабіў карэкту, і рассылаў газэту, і зьбіраў на яе патрэбныя сродкі. Найбольш даваў, праўда, сам. Мама тады езьдзіла ранічкаю на «Галі», вялізарны стары рынак у цэнтры Парыжу, які пазьней разбурылі, каб купіць таньней бульбы, сялёдкаў ды сьвіных ножкаў, бо-ж трэба было пракарміць сям'ю.

Газэта перастала выходзіць паўтары гады пазьней, калі Лысуха адмовіўся яе набіраць за цану, якую грамада мела магчымасьць яму плаціць. А больш грошай цяжка было сабраць, магчыма, таму, што людзі ўжо былі пачалі выяжджаць у Амэрыку.

Якраз тады і наш гаспадар павысіў цану нашага памешканьня ды Тату трэба было шукаць нейкага выхаду. Зарабляў недастаткова, каб плаціць новыя цэны. Аб'ехалі мы ўсе прыгарадзьдзі Парыжу, шукаючы

*(Працяг на бач. 8)*

## БЕЛАРУСКІ ДОМ



Прачытаўшы артыкул «Беларускі дом» у нумары 466, не магу не адгукнуцца, бо аўтар сам запрашае чытачоў да дыскусіі. Тым больш, што гэта менавіта я пайшла з кошыкам для збору сродкаў на гэты дом.

Аўтар артыкулу Л. Юрэвіч піша, што «сама справа набыцьця (ці, хутчэй, збору сродкаў — адцемім вялікую розьніцу паміж гэтымі паняцьцямі) лічыцца вырашанай». Але, як я разумею, добры гаспадар спачатку ашчаджае грошы, а пасьля набывае маёмасьць. І калі ня зараз, дык колькі гадоў яшчэ мы будзем чакаць на тое, каб пачаць збор сродкаў? Не адзін месяц, нават гады, магчыма, пройдуць ад першага кроку ў гэтай справе да адкрыцьця будынку. Але трэба зрабіць гэты першы крок. Зрабіць сёньня.

Я разумею, некаторым было дзіўна глядзець збоку на гэтую акцыю, і тых сабраных грошаў стане адно на некалькі цаглінаў. З 120 прысутных на сьвяткаваньні БАЗА да мяне падыйшлі толькі тры асобы, якія выказалі свой пратэст супраць маіх дзеяньняў. Я крыху разгубілася. Але калі назаўтра раніцай у хаце зазваніў тэлефон і я пачула прыемны голас доктара Ул. Набагеза: «Добрую справу робіце. Я дашлю чэк на $1000», у меня быццам крылы вырасьлі. Вялікі дзякуй Вам, доктар Набагез, ня толькі за фінансавую — за маральную падтрымку. Мы добра ведаем, што такія сумы ў наш кошык часта падаць ня будуць. Але першы крок зроблены, і адступаць няма куды.

Магчыма, мы ня так нешта пачалі рабіць; кажуць, што не памыляюцца толькі той, хто нічога ня робіць. Толькі я ўпэўнена ў адным: калі мы зараз ня зоймемся будаўніцтвам нашага дому, мы яго не пабудуем ніколі. І нашыя нашчадкі нам гэтага не даруюць.

Аўтар артыкулу піша, што «даўно ў нашай грамадзе ідуць размовы аб патрэбе свайго будынку». Калі размовы ідуць даўно, значыць, сапраўды ёсьць у гэтым патрэба. І аўтар пацьвярджае, што зараз новая эміграцыя «набрала тую крытычную масу, калі колькасьць мусіць перайсьці ў якасьць». На жаль, яна яшчэ не такая актыўная ды моцная, якой хацелася-б яе бачыць, але дух беларускі ў ёй жыве. І з кожным разам на нашых штомесячных сходах у Фундацыі зь яўляюцца новыя людзі. Часам ня толькі сядзець, але й стаяць няма дзе. Новая эміграцыя пашыраецца за лік атрымаўшых палітычны прытулак ды выйграўшых ў лятэрэі «зялёную картку». Хацелася-б кожнага зь іх не згубіць як беларуса, пашыраць сваю грамаду. Бо менавіта ёй, новай эміграцыі, і трымаць Беларусь у Амэрыцы.

Мы жывём у так званым пераходным часе: беларусы, якія закладалі БАЗА 50 гадоў таму, адыходзяць ад актыўнага жыцьця, многія адыйшлі ў іншы сьвет. Бясспрэчна, вялікі дзякуй нашым старэйшым беларусам за тое, што ёсьць у нас зараз Фундацыя. але гэтага недастаткова: нам трэба пашыраць сваё памяшканьне. Тут ня трэба гіранізаваць наконт Пятай Авеню ці вялікага будынку з калёнамі. Мы добра разумеем свае магчымасьці і ня маем ілюзій. Мы-б хацелі мець шматфункцыянальны дом з заляй для сустрэч, з некалькімі пакойчыкамі пад архіў і музэй, магчыма, і бар зрабіць, адну-дзьве кватэры — здаваць у рэнт, каб было за што ўтрымліваць дом. Няхай ён будзе ў такім месцы, каб туды было зручна даехаць ня толькі жыхарам Ню Ёрку, але й сябрам зь іншых штатаў. Бо хацелі-б бачыць дом сапраўдным цэнтрам — ня толькі для нас, для беларусаў усёй Амэрыкі. Ведаем, што цяжкасьцей будзе багата, але калі Беларускі дом адчыніць свае дзьверы — радасьць аплоціць усё.

Чамусьці аўтар артыкулу вырашыў, што для набыцьця новага будынку трэба будзе прадаць Фундацыю. Хачу супакоіць яго: такой думкі ў арганізацыйнага камітэту ня было. Фундацыя добра служыла й служыць нашай грамадзе. Галоўнае пытаньне — дзе-ж знайсьці грошы на дом — стаіць перад намі вострa, надзённа. І мы спадзяемся на падтрымку нашай ідэі беларусамі Ню Ёрку. У нас ёсьць працавітыя рукі, вялікае жаданьне. Нам не стае ведаў, як весьці бізнэс у Амэрыцы, але тут мы спадзяемся, што разам, талакой, агораем і гэта. Будзем удзячныя за любыя парады, прапановы, падтрымку.

А са спадаром Лявонам Юрэвічам, я спадзяюся, мы ня раз будзем піць гарбату ў новым Беларускім Доме.

**Ала Кузьміцкая**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## ВІНШАВАНЬНІ

Паважаная Спадарыня Доктар Марыя Паўля Сурвілла!

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады маю гонар і вялікае задаваленьне вітаць Вас з атрыманьнем на Ўнівэрсытэце Мічыган ў Энн Арбор, ЗША, 28 красавіка 2000 году, навуковай ступені Доктара ў галіне Музыкалёгіі — PhD in Music: Musicology.

Мы — Беларускае грамадзтва — цешымся з Вашага асягненьня, бо дацэньваем вялікую патрэбу асьвечаных людзей, нашых беларускіх вучоных ў розных галінах навукі. Мы цешымся Вашым асягненьнем тым болей, бо ведаем, што Вы працуеце якраз у галіне беларускай музыкалёгіі, аб чым сьведчыць і тэма Вашае доктарскае працы: «Аб русалках і рок сьпеваках: акрэсьленьне сябе й здэфініяваньне нацыі празь беларускую цяперашнюю музыку» — "Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Defining the Nation through Belarusan Contemporary Music".

Жадаем Вам спору ў працы й далейшых багатых навуковых асягненьняў на карысьць нашай беларускай вызвольнай справы.

Шчасьці Вам ува ўсім Божа!

Жыве Беларусь!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**

***БІНІМ далучаецца да віншаваньняў!***

## НОВЫЯ КНІГІ

Юрась Гарбінскі, укладальнік унікальнай анталёгіі «Беларуская думка ХХ ст.» (1998), выдаў новую працу, энцыклапэдычны даведнік, створаны, па-сутнасьці, адным чалавекам, — «Беларускія рэлігійныя дзеячы ХХ ст.». Яна ня мае ў нас аналёгіі, а таму пэўныя праблемы непазьбежныя й зразумелыя. Але нават зулікам гэтага можна сьцьвярджаць, што выданьне — адно зь лепшых году мінулага. Укладзенае рознажанравымі матар'яламі, яно задавальняе розныя патрэбы: дае біяграфічную й бібліяграфічную даведкі (першы разьдзел — больш за 180 пэрсаналій), знаёміць з малавядомымі публікацыямі пераважна мэмуарнага пляну (другі разьдзел), скіроўвае далейшыя архіўныя пошукі (разьдзел трэці). Бадай упершыню сабрана разам надзвычайная калекцыя фотаматар'ялаў зь гісторыі беларускага сьвятарства.

Праца — і аўтар гаворыць пра тое ў прадмове — не ставіла перад сабой мэты ўвабраць, пазначыць усе постаці беларускага рэлігійнага руху. Тым ня менш, кніга дазваляе ўжо зараз рабіць пэўныя высновы: пра жыцьцёвасьць і сапраўдную народнасьць беларускасьць вуніяцтва, што аспрэчваецца ня толькі прамаскоўскімі царкоўнікамі, але й найбольш агрэсіўнымі беларускімі аўтакефальнымі праваслаўнымі; пра ролю эміграцыі ў справе пераемнасьці й захаваньня рэлігійных традыцый.

І вось гэтая апошняя акалічнасьць патрабуе зьвярнуцца да дзеячаў нашае эміграцыі, захавальнікаў архіваў, прыватных і грамадзкіх, — дапамагчы аўтарскаму калектыву, які ачольвае спадар Ю. Гарбінскі і які працуе над новай, паўнейшай энцыклапэдыяй, «Беларускі хрысьціянскі рух», дасылаць на адрэсу рэдакцыі газэты «Беларус» матар'ялы, што маглі-б быць выкарыстаныя ў такой важнай працы: здымкі, успаміны, публікацыі з беларускіх ды іншамоўных выданьняў. Усё будзе перадзена аўтарскаму калектыву.

Ад нас залежыць, наколькі поўнай і праўдзівай будзе тая энцыкляпэдыя — першая пра беларускае сьвятарства.

## ФОТААРХІЎ



***Саюз Беларускай Моладзі***
***Менск, 1943 год***

*У першым радзе чацьвёртая зьлева Людміла Рагуля; у другім радзе зьлева: Натальля Куліковіч-Шчатлова-Кушаль, Надзея Абрамава, Вераніка Катковіч- Клентак; у трэцім радзе зьлева Зося Аляхновіч*



БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
распычынае падпіску на **«Творы» Антона Адамовіча**.
Чарговы, адзінаццаты том сэрыі «Беларускія пісьменьнікі»
будзе выдадзены напачатку наступнага году.
Зьместам кнігі стануцца ўнікальныя, дасюль не друкаваныя
творы вядомага дзеяча эміграцыі, знойдзеныя ў архівах
ці ўпершыню перакладзеныя ў беларускую мову.
Кніга ілюстраваная рэдкімі фотаматар'яламі.
Падпіску і ахвяраваньні дасылайце на адрэсу Інстытута.
Гэтую кнігу мусіць мець кожны!

Усе ведаюць пра Journal of Belarusian Studies, які выдаваўся на працягу амаль 25 гадоў і, на жаль, спыніў свай выхад у 1988 годзе. **Belarusian Chronicle** была задумана ў 1997 як пачатак адраджэньня таго часапісу. Пакуль няма дастаткова арыгінальных навуковых кантрыбуцыяў, мы ня маем магчымасьці адрадзіць часапіс у ранейшым выглядзе. Тым часам мы выдаем **Belarusian Chronicle** чатыры разы на год і плянуем уключаць як мінімум адзін навуковы артыкул у кожны нумар. Акрамя гэтага, **Belarusian Chronicle** будзе зьмяшчаць інфармацыю пра жыцьцё нашае дыяспары ў Вялікай Брытаніі. Музыка й паэзія ёсьць важнай часткай часопісу.

Апошні нумар **Belarusian Chronicle** мае 32 старонкі. Каб падпісацца, кантактуйце з нашым прадстаўнікам у Ню Ёрку Лявонам Юрэвічам (рэдакцыя газэты «Беларус»). Кошт падпіскі на год $28.

Падзеі апошняга часу на Беларусі выклікаюць інтарэс і заклапочанасьць як Беларускае дыяспары, так і Брытыйскае (Заходняе) грамадзкасьці. Таму Англа-Беларускае Таварыства вырашыла выдаваць штомесячны бюлетэнь **Belarusian News Bulletin**. Рэдагаваны Брытыйскімі спэцыялістамі па Ўсходняй Эўропе, гэты часапіс дае агляд палітычных ды эканамічных падзеяў на Беларусі. Нашыя амбіцыі: мець больш арыгінальных камэнтароў ды інтэрвію. Каб падпісацца, кантактуйце зь Л. Юрэвічам. Выданьне — 8 старонак, кошт на год $49.

У выдавецтве "ATHENAEUM" выйшла Кніга 28 **Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.** Гэтая кніга ёсьць першай беларускай публікацыяй у рамках міжнароднага праекту па дасьледаваньню й выданьню Метрыкі ВКЛ. Праца была падрыхтаваная ў Інстытуце Гісторыі Акадэміі Навук. У Кнізе 28 **Метрыкі ВКЛ** прадстаўлены матар'ялы, якія датычаць Вільні, Менска, Полацка, Воршы, Мсьціслава, Мазыра, Гайны, Кіева ды іншых мясьцінаў Вялікага Княства Літоўскага на працягу 1522-1552 гг. Дакумэнты публікуюцца ў мове арыгіналу — старабеларускай. Кніга забясьпечаная дэталёвымі ўводзінамі на беларускай, ангельскай, літоўскай, расейскай мовах, а таксама вялікім навукова-даведачным апаратам.

Калі Вас цікавіць магчымасьць набыць гэтую кнігу, зьвяртайцеся, калі ласка, на паштовы адрас: Metryka P.O. Box 71 Minsk 220123 BELARUS альбо пішыце на anh@belsonet.net.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## СЬВ. ПАМЯЦІ НАДЗЯ ЛУЖЫНСКАЯ



У нядзелю 27 лютага пасьля працяглай хваробы адышла ад нас Надзя Лужынская. Таінства паховінаў выканаў а. Ігар Хлябіч, які ў сваёй глыбокай душпастырскай прамове цёпла ахарактыразаваў памерлую.

Надгробнае слова блізкага прыяцеля Аўгена Падгайскага:

Надзя, ты ляжыш бязмоўна, а сябры Твае прыйшлі, каб разьвітацца з Табою і ўспомніць шлях Твайго жыцьця. Нарадзілася Ты ў вёсцы Брусы Мядзельскага павету, непадалёку ад цудоўнай блакітнай Нарачы, тады ў польскай дзяржаве. У сямейцы было пяцёра дзяцей. Так дажылі да восені 1939 году й перанесьлі савецкую акупацыю. Незадоўга другі акупант з захаду завалодаў беларускай зямлёю. Ня маючы надзеі перажыць другую савецкую акупацыю, Ты апынулася ў Нямеччыне, дзе ў 1946 г. знайшла свой куток у беларускім лягеры Ватэнштэт. Тут пазнаёмілася й выйшла замуж за Міхася Лужынскага. Зь Нямеччыны эміграцкім шляхам рушылі ў Аўстралію й даплылі да Сыднею 1 сакавіка 1950 году. Сёньня Ўсемагутны ўзяў Цябе ў сваё нябеснае валадарства.

Мы сабраліся тут, каб аддаць Табе высокую пашану за Твае вялікія заслугі перад Богам, беларускім народам й грамадзтвам. Абдораная жаночнай красою, Ты мела душу, якая поўнасьцю адпавядала Тваёй вонкавай прывабнасьці. Ты — верная жонка свайго мужа, прыкладная маці сваіх дзяцей, гасьцінная гаспадыня сваёй хаты, а ў жыцьці надзвычай мілы й дарагі чалавек. Няма людзей, якіх Ты скрыўдзіла ці пасудзіла.

Прабач, калі хто-небудзь з нас, вольна ці нявольна, засмуціў хоць на адну хвілінку Цябе. Ня гледзячы на розьніцу рэлігіі, Ваша сям'я была прыкладам нашаму грамадзтву. Усё сваё жыцьцё Ты была верным памочнікам у грамадзкай працы свайго мужа, узгадавала прыкладную сям'ю, шчыра давала ахвяры на патрэбы свае царквы.

Царква вучыць, што сьмерць — гэта пераход у другі сьвет, куды мы ўсе пойдзем, за Табою, па словах царкоўнага гімну, пойдзе і Цар, і Воін, багаты і ўбогі, і ўсе ў роўнай пашане. Кажуць, што праведным людзям Гасподзь пасылае лёгкую сьмерць. Ты ўдастоілася падчас сну, ціха й спакойна, адысьці да Бога.

Вечны Табе супакой і Ўладарства Нябеснае. Муж, сын і дочкі, прыміце ад нас самыя шчырыя спачуваньні.

## ПАМЯЦІ КАСЬЦЮКЕВІЧАЎ

Выпадак ці здарэньне? Паліцыя з Пэры Соўнд, што дасьледавала сьмерць Віктара І Ірыны Касьцюкевічаў на тэрыторыі нашага Слуцку пасьля 23-га сакавіка сёлета, назвала гэта **accident**.

Сьведкаў не было. Адно пусты, крыху пагружаны ў ваду каяк і мужчынская шапка ў вадзе. Гэта знайшлі двое нашых сяброў, што паехалі ў Слуцак 24-га сакавіка. Збоку-ж, ля самага берагу вялікага возера Манітовабінг, незамкнёныя дзьверы дому гаспадароў. Нічога ў хаце не прапала.

Таронцкім і іншым пляткаркам няма асноваў, пацьверджаных сьведкамі, каб давесьці што і як адбылося. Трагічны выпадак. Двое цэнных, заслужаных суродзічаў, у ваду канулі. Тут слова «канулі» апроч прынятага, мае й рэальнае значэньне, бо знайшлі-ж іх, добра пашукаўшы, на чатырохмэтравай глыбіні ў вадзе, хаця й ня побач адзін аднаго…

Віктар Касьцюкевіч радзіўся ў жнівені 1925 году ў Скудуцях Докшыцкага раёну, Ірына — у 1926 г. у Польшчы. Ззаду за імі — нялёгкае мінулае па розных краінах Эўропы. Віктар пасьля настаўніцтва ў Беларусі, Віленскай беларускай гімназіі, Беларускай Краёвай Абароны, дапамагаў хаўрусьнікам у Італіі ў складзе Другога польскага корпусу брытанскай восьмай арміі. Напачатку 50-х гадоў гэта руплівая й працавітая пара прыехала ў Таронта.

Працавалі ў індустрыі. Сын Лео (Лявон) скончыў унівэрсытэт, цяпер лётнікам сьцеражэ канадыйскія берагі над Ціхім акіянам у ваколіцы Ванкувэру й іншых пунктаў; дачка Джанэт жыве зь дзяцьмі ля Таронта.

Віктар некалькі гадоў старшынстваваў у Галоўнай Управе Згуртаваньня Беларусаў Канады, займаў іншыя адказныя становішчы ў беларускім канадыйскім грамадзтве. Ірэна ў працы й помачы іншым нідзе ад мужа не адставала.

Малітва й служба паховінаў адбылася ў Логан Фюнэрал Гоўм у Пэры Саўнд 1-га красавіка. Ладзілі яе мясцовы аддзел канадыйскіх вайсковых вэтэранаў і сьвятары. З Таронта й ваколіцаў прысутнічала 14, у іх ліку Першы Ярарх БАПЦ арх. Мікалай, старшыня ЗБК Надзя Дробін і іншыя сябры беларускіх арганізацыяў.

Пасьля павароту з могілак у залі вэтэранскага дому нарыхтаваны быў абед. Кароткая прамова з боку вэтэранаў дый нарэшце наша падзяка ім за помач у паховінах і гасьціннасьць.

Радні памерлых — нашае шчырае спачуваньне, а Віктару і Ірэне — вечная Памяць!

**К. Акула**

## УСПАМІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСКАГА...

*(Працяг з бач. 6)*

штосьці другое. Нажаль, не было нічога даступнага, каб наняць. Старыя хаты прадаваліся, але ў нас не было за што купляць, пазычку ў тым часе немагчыма было атрымаць. Адзіным выхадам было купляць кусочак зямлі ды будаваць самім. Аказалася, што Мама была заэканоміла толькі на палову кусочка, які мы знайшлі ў Сартрувіль, 12 кілямэтраў на паўночны захад ад мяжы Парыжа. Трэба было знайсьці партнёра. Знайшоўся. Тата нарысаваў пляны і яму і сабе. Горад прыняў. Будавалі мы нашую хату, сям'ёй, чатыры гады. На большыя работы, калі, прыкладам, трэба было залівацць цэмэнт, зьбіралася талака. Перанясьліся на новае месца, як скончылі першы пакой. Не было, праўда, ані электрыкі, ані вады. Але не толькі далі сабе рады, а Тата нарысаваў пляны яшчэ і іншым беларусам, якія былі вырашылі ўзяць з нас прыклад ды будавацца. Жылі дружна, адны адным памагалі. Яшчэ памяталі пражытае некалькі гадоў раней. Людзі былі ўдзячныя за ўсё, што лёс ім даваў. Былі, магчыма, шчасьлівейшыя гады, калі было цяжка, але жылі яшчэ надзеяй, як пазьней, калі жыцьцё сталася нармальным, ператварылася ў штодзённшчыну.

## МАРШ СВАБОДЫ

1

Грамадою ідзем мы зь сівой даўніны,
Беларусы, за лепшаю доляю
Не згубілі мы сілы і душ чысьціні
І любыя нягоды адолеем!

**Прыпеў:**

*Беларусь, свабоду здабывай,*
*Божым шляхам крочы наперад сьмела!*
*Дух гартуй народны і яднай*
*Нас пад сьцягам бел-чырвона-белым!*

2

Каб заможна зажыў беларус гаспадар,
Каб спрадвечныя мары збываліся,
Мы прыносім сябе на народны алтар,
Супраць цемры лукавай змагаемся.

**Прыпеў**

3

Гэй, за лёс! Гэй, за Край паўставайма гарой!
Сьвята праўды наблізьмя належнае!
Хай адбудзіцца ў кожным сьвяты і герой.
Хай жыве Беларусь незалежная!

**Прыпеў**

## АХВЯРАВАНЬНІ

| | |
|---|---|
| М. Мароз | $500 |
| Г. Шайпак | $243.72 |
| Алла Орса-Рамана | $200 |
| М. Лужынскі | $200 |
| М. Смаршчок | $200 |
| Л. і Ю. Кіпелі | $200 |
| М. і Н. Рагулі | $200 |
| Міхась Мілеўскі (замест кветак на магілу Надзі Лужынскай) | 200 аўстр. дал. |
| В. Крышчук | $150 |
| Валентын Навіцкі (заміж вянкоў на магілы Ірэны й Віктара Касьцюкевічаў) | 100 кан. дал. |
| Кастусь Акула (заміж вянкоў на магілы Ірэны й Віктара Касьцюкевічаў) | 100 кан. дал. |
| Г. Руднік | $100 |
| А. Занковіч | 100 |
| В. і Л. Ракуць | 100 |
| А. Маркевіч | 100 |
| В. Набагез | 100 |
| Н. Жызьнеўскі | 80 |
| Я. Баран | 67 |
| М. Латушкін | 60 |
| Раіса Жук-Грышкевіч | 50 |
| К. Біленіс і К. Пануцэвіч | 50 |
| В. Махнач | 50 |
| М. Каленік | 50 |
| Н. і Р. Касьцюкі | 50 |
| Г. і Д. Сенькевічы | 50 |
| В. і Г. Ільшчукі | 50 |
| Л. Галубовіч | 50 |
| М. Дудзеўскі | 50 |

| | |
|---|---|
| А. і В. Шчэцькі | 50 |
| Я. і Н. Запруднікі | 50 |
| О. Грыцук (заміж кветак на магілу І. і В. Касьцюкевічаў) | 50 |
| О. Грыцук | 50 |
| А. Мацукевіч | 50 |
| К. і Я. Вініцкія | 50 |
| Ст. Тамара | 50 |
| Я. і В. Найдзюкі | 40 |
| Н. і Л. Чэрнаморскія | 40 |
| Н. Грэбень | 40 |
| Н. і В. Сьнежка | 40 |
| М. і К. Верабей | 40 |
| П. Бурдзь | 50 |
| Г. Скурат | 35 |
| К. Шыкалюк | 34 |
| В. Пеляса | 30 |
| Я. і Н. Крэслы | 30 |
| У. і Э. Майдзікі | 30 |
| а. К. Стар | 30 |
| Л. Шурак | 30 |
| К. і В. Ворс | 30 |
| Ю. Рапецкі | 30 |
| П. і Л. Нягода | 30 |
| Я. Каханоўская | 30 |
| Я. і В. Каваленка | 30 |
| В. і Л. Цярпіцкія | 30 |
| М. Абрамчык | 30 |
| М. Радчанка | 30 |
| Г. Стральцова | 20 |
| В. і А. Казлоўскія | 20 |
| Я. і А. Гольдзіны | 20 |
| В. Бальтрусэвіч | 20 |
| Я. Наваградзкі | 20 |
| М. Кулегін | 20 |
| Я. Шыбут | 20 |

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018